**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

№ 35 (595) 1 верасня 2011 года

Кошт свабодны.

Расонскі раён

# Дубовы Бог вярнуўся

■ Станіслаў Раманчук

**І ў наш час ёсць месца для сапраўдных навуковых адкрыццяў.**

Такая падзея адбылася днямі ў Расонскім раёне, дзе са дна ракі Дрыса ў выніку спецыяльна праведзенай аперацыі паднялі ўнікальную знаходку – выяву драўлянай скульптуры з дуба X альбо XII стагоддзяў, якая прадстаўляе тагачаснага язычніцкага Бога. У гэтым месцы яшчэ некалькі гадоў назад аматары падводнага плавання з Полацка ўбачылі, як ім спачатку падалося, фігуру патанулага чалавека. Далей гэта гісторыя стала вядомай і навукоўцам Полацкага дзяржуніверсітэта, якія выехалі сюды і пераканаліся пасля праведзеных падводных здымкаў, што тут знаходзіцца паважаны далёкімі продкамі язычніцкі ідал Пярун альбо Вялес. Падымаць гэту каштоўнеўшую рарытэтную знаходку вышынёй 1,22 метра і вагой каля 200 кг было вырашана з дапамогай вопытных сталічных дайвераў. Пад вадой прыйшлося размыць дно ракі і вызваліць выяву старажытнага Бога ад пяску. На дзіва, помнік дахрысціянскай культуры выдатна захаваўся праз стагоддзі. Пасля вызвалення яго з вадзянога палону каштоўнейшы экспанат з моранага дуба ў спецыяльнай скрыні быў дастаўлены ў сталічны Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук. Вучоныя ў Мінску правядуць патрэбную рэстаўрацыю знаходкі і неабходныя аналізы, якія пацвердзяць дакладны ўзрост дрэва. Па папярэдніх ацэнках, дахрысціянскі ідал можа адносіцца да эпохі ранняга сярэднявечча і апынуўся ў вадзе падчас увядзення хрысціянства ў гэтай мясцовасці.

Глыбоцкі раён

# Сцеражыся аўтамабіля

■ Чэслаў Якубовіч

**Займацца шэрагам відаў прадпрымальніцкай дзейнасці ў нас па-ранейшаму рызыкоўна і няпроста з-за забюракратызаваных правілаў "гульні" і высокіх патрабаванняў.**

Тыя, хто пры гэтым рашаецца яшчэ абысці закон, трапляюць у няпростыя жыццёвыя сітуацыі. Цяпер кепскі настрой у шэрагу жыхароў Глыбокага, супраць якіх мясцовы міжраённы аддзел Упраўлення дэпартамента фіндаследаванняў абласнога Камітэта дзяржкантролю распачаў крымінальную справу. Гэтыя гараджане вырашылі падзарабіць, калі ўзнік ажыятаж з набыццём іншамарак у сувязі з павышэннем мытных пошлін на аўто. Як устанавілі фінансавыя міліцыянеры, некалькі глыбачан аб'ядналіся ў групу і змаглі за некалькі месяцаў прыгнаць з Прыбалтыкі каля 10 легкавых аўтамабіляў. Усе легкавушкі аўтапрадпрымальнікам удалося прадаць у Беларусі жадаючым набыць машыны. Аднак, па існуючых правілах, такую дзейнасць трэба было легалізаваць. Цяпер у віну перагоншчыкам аўто ставяць, што яны незаконным чынам атрымалі даход у памеры звыш 160 мільёнаў рублёў і не заплацілі дзяржаве немалыя падаткі. У выніку вядзецца расследаванне па гэтай справе. Чым яна закончыцца, стане вядома, калі канчатковую кропку ў справе паставіць рашэнне суда. Але, відавочна, што нервовых клетак яна забярэ ў гэтых людзей багата і на доўгі час азмрочыць настрой.

Пастаўскі раён

# Цяжкасцей дабавілася

■ Кастусь Александровіч

**З развіццём крызісных з'яў у айчыннай эканоміцы імгненна рэзка дабавілася праблем у многіх суб'ектаў гаспадарання.**

Вось і ў Пастаўскім раёне яшчэ ў пачатку года працаваў прыпяваючы завод жалезабетонных вырабаў у гарпасёлку Варапаева. Тут толькі паспявалі выконваць усё ўзрастаючы аб'ём заказаў на розныя пліты перакрыцця, калоны і бэлькі, бо бударганізацыі нарошчвалі тэмпы ўзвядзення жылля і іншых аб'ектаў. Расла ў завадчан і заработная плата, якая наблізілася да 2 млн. рублёў у месяц. Аднак усяму добраму надышоў канец, цяпер стала працаваць вельмі няпроста. Па-першае, рэзка выраслі цэны на метал і іншую сыравіну, неабходную па тэхналагічнаму цыклу. Як і ў іншых калег па галіне, з перабоямі стаў паступаць цэмент, якога недаатрымалі 300 тон з неабходных 900. З цяжкасцямі завод праплаціў і пастаўкі шчэбеня. Але ў нас не на Захадзе, дзе каапераціўныя сувязі дзейнічаюць без збояў, дакладна ў вызначаную нават гадзіну адгрузкі і дастаўкі спажыўцу. Завадчанам прыходзіцца чакаць яго паступлення некалькі дзён, каб запрацаваў модульны вузел. Парадокс айчыннай эканомікі яшчэ ў тым, што многія партнёры завода ЖБВ самі сядзяць без грошай, усе вінаватыя адзін аднаму вялікія сумы. У выніку на прадукцыю завода ёсць попыт, яна адгружаецца, але на разліковы рахунак не паступіла каля 600 млн. рублёў за своечасова выкананыя заказы.



# Лічба нумара

**2,3 млрд. $** - на такую суму атрымае крэдытных рэсурсаў адно з вядучых прадпрыемстваў краіны, салігорскі "Беларуськалій" у няпросты перыяд для беларускай эканомікі. Падобна на тое, што гэтыя грошы папоўняць айчынныя золатавалютныя рэзервы і стануць адным з падмуркаў стварэння так званай "падушкі бяспекі". Пад гарантыі ўрада такую падтрымку беларусам вырашылі аказаць буйны расійскі Ашчадны банк і не менш ўплывовы Deutsche Bank. Акрамя іх крэдыт на 300 млн. долараў на 4 наступныя гады прадастаўляе Азербайджан.

Адзінае, што на гэты раз валюта нам прадастаўляецца пад залог асноўнага і ліквіднага экспартнага тавару дзяржавы. У якасці гарантыі вяртання грошай тым жа расіянам выстаўлены 35 % акцый "Беларуськалія", якія забяспечваюцца заключанымі экспартнымі кантрактамі на адгрузку калійных угнаенняў. І не самі салігорскія шахцёры былі ініцыятарамі такіх пазык, вёў адпаведныя важныя перамовы ў пачатку лета беларускі ўрад. У дадзены момант гэта было аптымальным выйсцем з няпростай сітуацыі, калі нашай краіне панізілі суверэнны крэдытны рэйтынг.

А валюта цяпер патрэбна Беларусі, як ніколі, бо яе не хапае для выхаду на адзіны раўнаважны валютны курс і для аднаўлення таргоў на валютнай біржы. На такія патрэбы неабходна мець каля 4 млрд. долараў. Перад гэтым нам аказалі падтрымку партнёры з Антыкрызіснага фонда Еўразійскай эканамічнай супольнасці. Але ў гэтых дасягнутых дамоўленасцях ёсць і свае мінусы. У прыватнасці, расіяне свайго не ўпусцілі і скарысталіся сітуацыяй.

Да канца года "Беларуськалій" павінен 60 % атрыманых угнаенняў паставіць менавіта расійскай кампаніі "Уралтрэйдынг" па фіксаванай цане калію па 350 долараў за тону. У той самы час удалося Беларускай калійнай кампаніі заключыць вельмі выгадны кантракт на адгрузку калію ў Індыю ў памеры 1,2 млн. тон да сакавіка будучага года па цане ўжо 490 долараў/т на ўмовах дастаўкі ў порт пакупніка. Цана гэтай дамовы перавышае раней дзеючы кантракт на 120 долараў за тону, розніца, як бачна, вялікая.

Але іншага выйсця сёлета ў беларускага ўрада не было, бо інакш не падступіцца вырашыць фундаментальныя праблемы айчыннай эканомікі і велізарнай залежнасці ад суседняга расійскага рынку. Ужо ўсім у краіне відавочна, што толькі ўзрастаюць цяжкасці ў нармальным функцыянаванні народнагаспадарчага комплекса. Справа ў тым, што пры росце аб'ёмаў продаж беларускай прадукцыі за мяжу, дэбіторская запазычанасць дасягнула 3,8 млрд. долараў – столькі валютнай выручкі не вярнулася назад у краіну. Іншы раз, шэраг экспарцёраў спецыяльна ўсялякімі спосабамі не імкнуцца хутчэй атрымаць заробленае, каб пазбегнуць абавязковага продажу валюты па ўстаноўленаму заніжанаму валютнаму курсу.

А ў сітуацыі з займамі "Беларуськалію" нам дапамагла спрыяльная сусветная кан'юнктура на рынку ўгнаенняў. Летась калійшчыкі змаглі атрымаць валютнай выручкі 2,06 млрд. долараў, а ў гэтым годзе пастаўкі на экспарт раслі, а аб'ёмы выручкі выраслі за паўгода на трэць, да 1,334 мільярда у.а. Эксперты прагназуюць, што да канца 2011 года цана калію можа павялічыцца яшчэ на 30-40 $ за тону. З іншага боку даўгі нашай краіны працягваюць расці.

Скарачэнню знешняга доўгу і папаўненню паступлення валюты ў Беларусь магло б садзейнічаць прыцягненне замежных інвестыцый. Але і тут нам хваліцца няма чым. У лепшым выпадку краіне ўдасца прыцягнуць каля 2 млрд. долараў інвестыцый, а планавалася ў 3 разы болей. Наша краіна заключыла 719 інвестыцыйных дагавораў, але гэта ў асноўным прыватныя прадпрыемствы. Буйныя дзяржаўныя пакуль маруддзяць, з інвестарамі не ладзяць, разлічваюць, што дзяржава неяк спіша іх агромістыя даўгі.

Аднак такі час жыцця на халяву мінаваў, бо з другога паўгоддзя Нацбанк спыніў грашовую эмісію, друкаванне пустых грошай. У выніку больш паловы айчынных вытворцаў балансуюць зараз на мяжы стратнай дзейнасці. Выхадам з крызісу мог бы стаць рост знешняга гандлю і выпуск канкурэнтназдольнай прадукцыі, для чаго заводам патрэбныя сучасныя тэхналогіі і абнаўленне вытворчасці, вельмі шмат грошай, а іх мала.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 01.09.11 | | | | пятн. 02.09.11 | | | | сб. 03.09.11 | | | | нядз. 04.09.11 | | | | пн.05.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +11 | +15 | +18 | +13 | +11 | +15 | +17 | +11 | +10 | +14 | +17 | +12 | +9 | +13 | +17 | +12 | +9 | +10 | +14 |
| Ціск, мм | 745 | 745 | 745 | 745 | 745 | 745 | 745 | 745 | 746 | 747 | 747 | 748 | 749 | 750 | 750 | 751 | 751 | 751 | 750 |
| Вільготнасць, % | 93 | 77 | 61 | 87 | 96 | 84 | 62 | 91 | 97 | 88 | 66 | 90 | 100 | 89 | 66 | 77 | 81 | 72 | 60 |
| Вецер м/сек | З 3 | С-З 2 | Ю-З 4 | З 3 | З 3 | С-З 2 | З 3 | С-З 2 | З 3 | С 2 | С-З 2 | С-З 3 | С 3 | С 4 | С 3 | С-В 5 | С 4 | С-В 4 | В 3 |

## Дзень за днём

**З дадатковымі цяжкасцямі з-за высокіх цэн сутыкнуліся многія маламаёмныя беларускія сем'і пры падрыхтоўцы дзяцей у школу. Самыя бедныя звярталіся за аднаразавай сацыяльнай дапамогай. У новым навучальным годзе ў Беларусі адкрыліся 6 новых школ, 15 дзетсадоў і 2 інтэрнаты, да заняткаў былі гатовы ўсе ўстановы адукацыі. З пробных месц на Гродзеншчыне альбо Міншчыне прапанавала Мінсувязі пачаць адключэнне аналагавага тэлебачання з 2012 года. На рэалізацыю Дзяржпраграмы ўстойлівага развіцця вёскі да 2015 года пойдзе 29,7 трлн. рублёў, пакуль на сталічных рынках харчавання пустуе 20 % гандлёвых месц.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Пачатая краінай эканомія расходаў выклікала эканамічны спад і зніжэнне дзелавой актыўнасці, рост ВУП да канца года знізіцца на 0,6 %, што пагражае сусветнай эканоміцы.

**Сірыя.** За 4 месяцы антыўрадавых выступленняў за адстаўку прэзідэнта краіны Башара Асада прапалі без звестак каля 3 тысяч чалавек, ён нарэшце дазволіў шматпартыйнасць.

**Англія.** Серыя небывалых масавых бандыцкіх пагромаў накрыла не толькі Лондан, але і буйнейшыя гарады Бірмінгем, Ліверпуль пасля забойства паліцыяй таксіста-іміграната.

**Кітай.** У ходзе буйной спецаперацыі паліцыя ліквідавала буйную злачынную сетку па гандлю дзецьмі, былі арыштаваны па краіне каля 400 чалавек, з іх – многа в'етнамцаў.

**Англія.** Услед за ЗША другая ўплывовая краіна Захаду вырашыла змяніць свайго пасла ў Маскве, эксперты звязваюць гэта з магчымымі зменамі пасля прэзідэнцкіх выбараў 2012 г.

**Польшча.** У Варшаве адкрыўся сучасны Цэнтр кіравання інавацыямі і тэхналогіямі за 17,5 млн. еўра, краіна выйшла на 6-е месца ў свеце па ўмовах для замежных інвестыцый.

**Францыя.** Вярхоўны суд западозрыў новага главу МВФ Крысцін Лагард у магчымым перавышэнні раней службовых паўнамоцтваў і пачаў афіцыйнае расследванне па справе.

**Калумбія.** Падчас выканання службовага задання моцны ўдар маланкі ўдарыў па палявому армейскаму лагеру ў гарах і забіў 4 салдат, яшчэ 9 вайскоўцаў атрымалі раненні.

**Грэцыя.** На фоне фінансавых цяжкасцей Міністэрства працы краіны аб'явіла праверку атрымання пенсій доўгажыхарамі, бо выявіла быццам жывых 20 тыс. грэкаў нябожчыкаў.

**Турцыя.** Урад пачаў праектаванне Стамбульскага канала – дублёра перагружанага Басфор, суседняя Грэцыя пачала узводзіць уздоўж граніцы роў шырынёй 30 м і 7 м у глыбіню.

**Самалі.** Краіну прызналі эксперты самай небяспечнай у свеце па ўзроўню тэрарыстычнай пагрозы, летась тут ад рук ісламіцкіх тэрарыстаў "Аш-Шабад" загінулі 1300 чалавек.

**Літва.** На бальнеалагічным курорце ў Друскінінкаі адкрываецца першы ў Прыбалтыцы крыты лыжны комплекс для катання апроч ляччэння на снаўбордах, лыжах, санках.

**Польшча.** Як і чакалася, урад распусціў 36 спецполк авіяцыі па абслугоўванню палётаў кіраўніцтва краіны, авіяпарк прададуць, яго функцыі перадалі авіякампаніі LOT.

**ЗША.** З-за невыноснай гарачыні толькі ў штаце Айова загінулі 4 тысячы быкоў, выпадкі смерці людзей ад сонечных удараў фіксаваліся ў 15 штатах, шмат праблем у фермераў.

**Украіна.** Урад рэзка, на 25-50 % павысіў кошт алкагольных напіткаў украінскай вытворчасці, мінімальны кошт бутэлькі гарэлкі дасягнуў 3,25 $, бутэлькі віна – 2,25 $.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Унутраныя тарыфы на пасажырскія чыгуначныя перавозкі, як пацвердзіў намеснік начальніка БЧ Уладзімір Балахонаў, застануцца нязменныя і павышацца пакуль не будуць.

**Салігорск.** "Беларуськалій" праз БКК заключыў выгадны кантракт на пастаўку калійных угнаенняў у Індыю і атрымаў крэдыт на 2,3 млрд. $ для папаўнення валютных рэзерваў РБ

**Мінск.** Шырокі грамадскі рэзананс у РБ і за мяжой выклікаў арышт праваабаронцы Алеся Бяляцкага, вызваліць яго з пад варты заклікалі Еўрапарламент, ЕС, ЗША, Германія, Літва.

**Горкі.** Гараджан парадавала, што на падрыхтоўку "Дажынак-2012" дадуць раёну 1,4 трлн. рублёў, тут намечана пабудаваць новы інтэрнат для сельгасакадэміі, новую бібліятэку.

**Гомель.** На 2012 год прызначылі серыйны выпуск новага збожжаўборачнага камбайна GS-16 "Палессе" з вялікім памерам жняяркі 9 м апошняй распрацоўкі ВА "Гомсельмаш".

**Гродна.** Старажытны гадзіннік на фарным касцёле св. Ксаверыя ў цэнтры горада абвясціў, што праз 5 гадоў рэканструкцыі пасля пажару адрадзіўся ўнікальны алтар са скульптурамі

**Мінск.** Першых пасажыраў сёння прыняў адкрыты пасля рэканструкцыі сталічны аўтавакзал "Цэнтральны", у ім 16 пасадачных платформ, 10 білетных кас, паркінг, кафэ.

**Лоеў.** У райбальніцы памёр 29-гадовы мінчанін, які ў лівень вечарам пры выездзе з вёскі сутыкнуўся на сваёй іншамарцы са статкам кароў каля фермы, загінула і 5 рагуль у ДТЗ.

**Ліда.** Мітрапаліт Філарэт правёў у кафедральным саборы ўрачыстае богаслужэнне і акт кананізацыі новага беларускага святога, свяшчэннапакутніка Кіпрыяна Клімуца.

**Брэст.** На чыгуначным вакзале затрымалі, а потым адправілі на радзіму 14-гадовага хлопчыка з Краснадарскага краю РФ, які з красавіка знаходзіўся ва ўсерасійскім вышуку.

**Жодзіна.** Самым папулярным у горадзе адразу пасля адкрыцця стаў 50-ты па ліку магазін вядомай гандлёвай кампаніі "Еўраопт", бо цэны тут намнога ніжэй "рыначных".

**Мінск.** Упершыню ў РБ з новага навучальнага года ў сталічным прафтэхкаледжы пачалі падрыхтоўку вадзіцеляў для працы на міжнародных аўтамабільных перавозках.

**Гродна.** Затрыманы пасля нападу на начны гарадскі магазін малады налётчык прызнаўся, што раней ён абакраў вясковы магазін і расстраляў з ружжа скульптуры партызан у парку.

**Гомель.** Падчас мастацкага пленэра студэнты-архітэктары універсітэта транспарту на беразе Сожа побач з горадам узвялі старажытную царкву св. Мікалая ... з пяску.

**Ганцавічы.** У невялікай сажалцы каля дома ўтапіўся гадавалы хлопчык, калі яго маці стала капаць бульбу на агародзе і не ўбачыла, як малы выйшаў са двара.

## Рынкавыя кошты на мясныя паўфабрыкаты адпусцілі



■ **Сяржук Серабро**

**З 27 жніўня лімітавыя максімальныя адпускныя кошты на мяса (ялавічыну, свініну) больш не ўжываюцца для адпускных коштаў на мясныя паўфабрыкаты, якія прадаюцца на рынках і кірмашах сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі, фермерскімі і сялянскімі гаспадаркамі, мясаперапрацоўчымі арганізацыямі і арганізацыямі спажывецкай кааперацыі.**

Адпаведныя змены занесены ў пастанову Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь №65 ад 27 красавіка 2011 года новай пастановай прынятым 24 жніўня Мінэканомікі па прапанове Мінсельгасхарча. Па меркаванні міністэрстваў, гэта мера павінна спрыяць павелічэнню аб'ёмаў рэалізацыі мяса на рынках рэспублікі, выключэнню яго спекулятыўнага перапродажу і стварэнню канкурэнтнага асяроддзя.

"Раней вытворцы і арганізацыі спажыўкааперацыі фармавалі адпускныя кошты на мясныя паўфабрыкаты, зыходзячы з лімітавых максімальных адпускных коштаў. У такой сітуацыі гандаль на рынках і кірмашах быў для іх не выгадны, што адбівалася на аб'ёмах паставак. Больш таго, прадукцыя, якая прадаецца вытворцамі, часцяком аказвалася ў распараджэнні перакупшчыкаў, якія перапрадаюць яе нашмат даражэй",- гаворыцца ў паведамленні Міністэрства эканомікі.

Акрамя таго, 24 жніўня набыла моц яшчэ адна змена, занесеная ў пастанову №65 - лімітавыя максімальныя адпускныя кошты на свініну патушную павялічаны на 10%.

## З 1 верасня павышаюцца цэны на звадкаваны газ

■ **Марына Носава, БелаПАН**

З 1 верасня амаль на 10% будуць павышаны рознічныя цэны на звадкаваны газ пры рэалізацыі на АЗС. Гэта прадугледжана пастановай Міністэрства эканомікі № 134 ад 19 жніўня, апублікаванай на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Гранічная мінімальная цана складзе 2.600 рублёў за літр (на 9,7% больш), гранічная максімальная — 2.800 рублёў за літр (на 9,8% больш).

Папярэдні раз цэны павышаліся 1 жніўня на 24%.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** Зрабіць раён паказальным і базавым на Віцебшчыне па асваенні інтэнсіўных сельгастэхналогій вырашыў А. Лукашэнка і загадаў выйсці на больш высокі ўзровень.

**Віцебск.** Пасля рэканструкцыі былога склада ААТ "Белвест" адкрыўся новы цэх па вытворчасці да 700 пар абутку ў змену на абсталяванні італьянскіх і нямецкіх фірм.

**Дуброўна.** Старшыня Камітэту дзяржкантролю РБ А. Якабсон на мясцовым льнозаводзе разбіраўся, чаму адно з самых моцных прадпрыемстваў гэтай галіны працуе са стратамі.

**Наваполацк.** У мясцовай гімназіі ў рамках эксперыменту адкрыўся сучасны электронны планшэтны клас з асобным выхадам у Інтэрнет пры падтрымцы кампаніі "Інтэл".

**Глыбокае.** Ва ўрочышчы "Дзядок" з'явіўся памятны знак памяці былога старшыні Узрэцкага сельсавета Віктара Глушына, які адрадзіў тут правядзенне народных фэстаў.

**Орша.** На сходзе ў прадпрыемстве інвалідаў па зроку начальнік абласной міліцыі, генерал А. Найдзенка ўзнагародзіў яго работніка Дзмітрыя Грыцанка за затрыманне злодзея.

**Докшыцы.** За грубыя парушэнні правіл аховы працы на ўборцы ўраджаю штраф у суме 700 тыс. рублёў прыйшлося заплаціць упраўленцам КСУП "АграБераснёўка".

**Гарадок.** З апёкамі кісцей рук 2-й ступені трапіў у бальніцу вадзіцель лясгаса, які неасцярожна паспрабаваў падсвяціць у гаражы бензабак аўтамабіля ГАЗ-53 запальнічкай.

**Чашнікі.** Міліцыя затрымала і завяла крымінальную справу супраць вясковага пенсіянера, які пасварыўся і так моцна збіў па галаве сваю 70-гадовую жонку, яна памерла ў бальніцы.

**Варапаева.** Калектыў дыстанцыі пуці выдзеліў 20 млн. рублёў для ўзнагароджання сваіх лепшых работнікаў, былі падтрыманы па 105 тыс. рублёў і ўсе 240 пенсіянераў чыгункі.

**Браслаў.** Пагранічнікі затрымалі двух латышоў, якія нелегальна праз Літву ноччу на лодцы перасяклі граніцу РБ, каб убачыць родных, нелегалаў аштрафавалі і дэпартавалі.

**Віцебск.** Пракуратура распачала справу па факту забойства нажом раней судзімым на тэрыторыі св. Троіцкага Маркава праваслаўнага манастыра 55-гадовага пастаяльца.

**Наваполацк.** Экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў заявіў, што ў мясцовай калоніі ўсе адносяцца да яго добра, і ён не верыць, што турэмны тэрмін працягнецца ўсе 5 гадоў.

**Орша.** За падрыхтоўку чэмпіёнкі свету па велатрэку ганаровае званне "Заслужаны трэнер Беларусі" атрымала трэнер па веласпорту філіяла абласной ШВСМ Любоў Нямкова.

**Віцебск.** На борце цеплахода падчас плавання па Дзвіне прайшоў апошні этап Кубка свету па інтэлектуальных гульнях "Што? Дзе? Калі?" з удзелам 35 каманд з 5 краін свету.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Мосарскія вернікі:
# «Робяць грошы на Богу і на Касцёле»

■ Кастусь Шыталь

Шмат людзей абураюцца тым, што супрацоўнікі аддзела культуры райвыканкама збіраюць грошы з людзей, якія прыязджаюць паглядзець касцёл і ландшафтны парк у Мосары. Карэспандэнт westki.info наведаў Мосар, каб лепш зразумець сітуацыю, якая склалася вакол гэтага папулярнага сярод вернікаў і турыстаў месца.



На стаянцы, што насупраць Касцёла, усталяваны шапік з шыльдай "Культурно-дендрологический комплекс д. Мосар, филиал ГУ культуры "Глубокский историко-этнографический музей". На шапіку вісіць аркуш з загадам №163, які ўсталёўвае з 15 мая 2011 года плату за наведванне культурна-дэндралагічнага комплекса ў Мосары – 2.000 рублёў для дарослых і 1.000 - для школьнікаў і студэнтаў.

Супрацоўніца, якая дзяжурыла ў шапіку, паведаміла, што грошы бяруцца за ўваход у дэндрапарк. "У касцёл можаце зайсці бясплатна", - сказала яна. Пра межы "дэндралагічнага комплекса" яна не паведаміла, не траплялі мне на вочы і планы, дзе былі б выразна пазначаныя межы тэрыторыі, за ўваход на якую трэба плаціць. Але я не плаціў – я ішоў у касцёл, каб сустрэцца са святаром Аляксеем Юркайцем.

Ксёндз Аляксей распавёў, што мосарскай каталіцкай парафіі належаць амаль два гектары зямлі, якія ўключаюць у сябе ўсю прастору паміж цэнтральнай вуліцай Мосара і касцёлам, сам касцёл, плябанію і гараж за касцёлам. Далей пачынаецца дэндрапарк – некалькі алеяў, дарога да крыніцаў, сажалкі, альтанкі, асвечаныя крыніцы. Гэтыя аб'екты з'явіліся пры ксяндзу Бульку на калгаснай зямлі, і цяпер належаць аддзелу культуры райвыканкама, пачаў збіраць грошы за ўваход на сваю тэрыторыю.

На перадкасцельнай тэрыторыі, якая з'яўляецца візітоўкай Мосара, гаспадарыць па-ранейшаму каталіцкая парафія. Парафіяне саджаюць і прапалваюць кветкі, скошваюць газоны. Небагатая парафія, якая налічвае паўтары сотні практыкуючых вернікаў, утрымлівае два гектары газонаў і кветнікаў. Турысты рэдка ахвяруюць грошы на патрэбы парафіі – яны лічаць, што заплацілі за ўсё пры ўваходзе.

На думку многіх мосарскіх парафіянаў, дзяржава, беручы грошы, прыніжае Касцёл. Бо людзі найперш едуць у касцёл, а не ў "дэндралагічны комплекс". "Робяць грошы на Богу, на Касцёле, а гэта дабром не скончваецца. Мы памятаем шматлікія прыклады з камуністычных часоў – з Панам Богам не варта гуляць у такую гульню", - кажа верніца з Мосара.




Кампрамісны варыянт, які прапануюць вернікі – перанесці шапік, у якім збіраюцца грошы, да мяжы тэрыторыі дэндрапарка, каб не браць грошы перад касцёлам. Але ўлады на гэта не пагаджаюцца.

Мосар, які турыстам падаецца зямным раем, па-ранейшаму з'яўляецца месцам спрэчак.

# Старэйшына старэйшай часткі Дзісны

■ Уладзімір Скрабатун

**– О, у вас з'явіўся новы аўтар – Ф.Шымуковіч. Цікава піша! – часта чую выказванні чытачоў у свой адрас.**

Ясная справа – цікава. Самі ведаем. Але вось асабістага знаёмства у нас не было. Толькі завочна, па тэлефону і ліставаннях.

Вось мы і паехалі ў мінулую нядзелю ў самы маленькі горад Беларусі Дзісну.

Тое, што мы ўбачым добраўпарадкаваны, пафарбаваны дом гаспадара, падказвала ўласная інтуіцыя.

Але прыехалі... Нашым ураженням не было межаў! Дык тут цэлы музей! Драўляныя скульптуры: бацяны над страхой, вялікія валошкі і рамонкі ў кветніках...

– Скульптуры вырабляю сам,– кажа Фадзей Лаўрэнцьевіч Шымуковіч (1935 г.нр) – усе яны па матывах твораў Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. Вось паглядзіце: «златая цепь на дубе том» и «русалка на ветвях сидит» і «кот учёный всё ходит по цепи кругом», ды «злой Кащей над златом чахнет»...


Фадзей Шымуковіч, педагог-пенсіянер, краязнаўца, старэйшына старэйшай часткі Дзісны.

– Вы ў сваіх матэрыялах часта падпісваецеся як «старэйшына старэйшай часткі Дзісны». Ці гэта нейкае ўласнае ўвасабленне, ці гэта афіцыйная пасада?

– Афіцыйная! Але грошы мне за гэта не плацяць!

– Тады Вы, вобразна кажучы, солтыс – як даўней называлі.

– Выходзіць так!

– Ну, і як жыве самы маленькі горад Беларусі?

– Як жыве? Праўдападобна гэтаму самаму маленькаму гораду Беларусі – гамон прыходзіць! Няма работы ў горадзе! Моладзь з'язджае. Мала чаго засталося, дзе можна знайсці працу. Асноўныя прадпрыемствы скасавалі ды перавялі ў Мёры. Адзінае выйсце – развіваць турызм! Аднак, каб нешта тут арганізаваць, трэба прабіць тоўстую сцяну чыноўнічай абыякавасці: як у Мёрах, як у Віцебску, так і ў Мінску. Любая ініцыятыва сячэцца на корані...

Мы пакідалі Дзісну ў вялікай скрусе, хоць былі зачараваныя перапраўкай парома з аўтамабілямі праз Дзвіну...

Наш матэрыял аб Дзісне яшчэ будзе напісаны...

### Цікава ведаць!

# У Шаркоўшчыны – дзве сястры, ёсць і трэцяя...

■ Ул. Скрабатун

**Хто б мог падумаць, але Шаркоўшчын у свеце – тры!**

Пачнем з нашай суседкі:

**Шаркоўшчына** – гарадскі пасёлак, адміністрацыйны цэнтр Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці Беларусі. Размешчаны на рацэ Дзісна, у 197 км ад Віцебска. Чыгуначная станцыя на лініі



Круляўшчызна—Друя, аўтамабільнымі дарогамі звязаны з Глыбокім, Браславам, Мёрамі і інш.

Насельніцтва — 6,9 тыс. чалавек (2010).

Іншыя дзве – на Украіне ў Палтаўскай вобласці:

**Шарковщина** (укр. Шарківщина) — сяло, Штомпелеўскі сельскі савет, Харольскі раён, Палтаўская вобласць, Украіна. Насельніцтва па перапісу 2001 года складала 52 чалавекі.

**Шарковщина** (укр. Шарківщина) — сяло, Рамаданаўскі пасялковы савет, Міргарадскі раён, Палтаўская вобласць, Украіна. Насельніцтва па перапісу 2001 года складала 626 чалавек.

Нашай беларускай Шаркоўшчыне няма чаго набівацца ў пабрацімы да ўкраінцаў. У параўнанні з імі наша – проста мегаполіс! Няхай украінцы да нас лашчуцца.

Ага! Ёсць яшчэ адна «Шаркоўшчына»! За савецкім часам так жартам называлі адзін мікрараён у суседнім Даўгаўпілсе (Латвія), дзе з'ехаліся перасяленцы з нашага краю (Глыбоччына, Браслаўшчына, Мёршчына, і, натуральна, Шаркоўшчына). Дык гэтая сястра, хутчэй за ўсё – «пазашлюбная».

### У аб'ектыве – помнікі даўніны.


**Царква ў в. Цвеціна, што на Мёршчыне, вельмі нагадвае па выгляду царкву ў Папоўшчыне, што на дарозе Глыбокае-Галубічы. Адна да адной! Тыпавы праект?**

*Фота Ул. Скрабатуна.*

**НАРОДНАЯ ПРАГРАМА**
www.prahrama.by



**Арыфметыка – дакладная навука. Супраць лічбаў няма аргументаў! Аднак дакладная навука не дае адказу на адно з пытанняў: «Чаму так адбываецца?» Чаму вымірае беларуская нацыя?**

**Ёсць такая вёска Альшаны ў Столінскім раёне Брэсцкай вобласці. Яе насельніцтва – 7 тысяч чалавек. Вёска па колькасці жыхароў пераўзыходзіць такія райцэнтры як Расоны, Шаркоўшчына, Докшыцы... Самая вялікая вёска Беларусі! У шмат якіх сем'ях – 6-8 дзяцей! Дакладная навука толькі канстатуе лічбы, але, каб каментаваць гэты феномен і рабіць высновы, павінен быць глыбокі аналіз. У чым сакрэт? Можа ў веравызнанні? Значная частка насельніцтва вёскі Альшаны – баптысты. Асноўны занятак жыхароў – бізнэс, вырошчванне агуркоў.**

**Як спыніць дэпапуляцыю Беларусі? Тэму даследуе Фадзей Шымуковіч.**

# Арыфметыка жыцця

**Люди – главное богатство Беларуси! В них залог наших успехов и государства в целом. Потому ключевым приоритетом нашей политики всегда был, есть и будет человек – его потребности, уровень и качество жизни. Человеческий капитал – двигатель модернизации страны.**

*А.Г.Лукашенко.*

**Фадзей Шымуковіч,**
*педагог-пенсіянер,*
*г. Дзісна.*

Крыху гісторыі. Галоўнае багацце планеты ў колькасных адносінах пастаянна расло. Рост быў бурным, асабліва апошнія 150 год. У пачатку новай эры, 2000 год назад, насельніцтва Зямлі складала ўсяго 230 млн. чалавек. Праз 1000 год было 275 млн., а ўжо ў 1850г. дасягнула 1 млр. чалавек, у 1900 годзе – 1,6 мільярда, у 1930 годзе – 2 мільярды, 1976г – 4 мільярды, у 1987 – 5 мільярдаў. Да 2000 года нас стала каля 7 мільярдаў. Насельніцтва адных краін у колькасных адносінах павялічвалася больш павольна, другіх – фантастычна. Кітай у 1955 годзе меў насельніцтва 450 мільёнаў, а ў пачатку трэцяга тысячагоддзя 1,35 мільярда, Індыя таксама пераўзышла мільярдную граніцу. Добра гэта або дрэнна адказаць цяжка. А вось калі ў краіне ідзе на ўбытак – адназначна дрэнна.

У 1939 годзе, калі адбылося аб'яднанне Усходняй Беларусі з насельніцтвам 5,6 мільёнаў, з Заходняй Беларуссю, з насельніцтвам у 4,7 мільёнаў, нас стала 10,3 мільёна. Так што Вялікую Айчынную вайну мы сустрэлі прыкладна з гэтай цыфрай. Калі паверыць чуткам, што ў вайну загінуў кожны трэці, то пасля выгнання нямецкіх акупантаў нас засталося 7 мільёнаў. Але ўжо да 1950 года насельніцтва рэспублікі складала 7 мільёнаў 745 тысяч чалавек. За 5 год натуральны прырост склаў 745 тысяч чалавек, або кожны год прыбывала прыкладна 150 тысяч беларусаў! І гэта пры ўмове, што на фронце, у партызанах і засценках гестапа загінула вельмі шмат мужчынскага насельніцтва, і жанчын, здольных да дзетанараджэння. Здавалася б, каму было нараджаць столькі дзяцей? Другое пытанне – не было не толькі памперсаў, але добрых полак, ніхто і не думаў пра дзіцячае харчаванне. Разжаваны кусок хлеба, якога не заўсёды хапала, загорнуты ў трапачку – асноўнае дзіцячае харчаванне. Пустышкі таксама былі дэфіцытам. Незразумела, як маці 50-х-60-х гадоў умудраліся выкарміць сваіх немаўлят. Дзякуючы маці з вялікай літары, ужо на 1 студзеня 1993 года мы дасягнулі граніцы ў 10 мільёнаў 239 тысяч чалавек. У эканамічных адносінах гэта быў перыяд страшэннай галечы, асабліва 50-70-я гады.

У 1960 годзе мне давялося працаваць старшынёй Стэфанпольеўскага сельсавета, і па абавязку службы ўручаць медаль мацярынства III ступені за 5-е нараджанае дзіця сваёй суседцы ў в. Ліпкі. У асабістым валоданні сям'і было 60 сотак агароду, карова, парасёнак, куры, кожны дзень праца ў калгасе, за якую нічога не плацілі. І патрэбна было яшчэ заплаціць грашовы падатак дзяржаве. Праўда, якісьці мізэр за 5-га і наступных дзяцей плаціла дзяржава. Сям'ю я ведаў добра, жылі побач, працавалі ў адной брыгадзе ў калгасе. Уручаючы ўзнагароду, я павіншаваў маці дзяўчынкі і не стрымаўся запытаць, як яны асмеліліся ў такіх цяжкіх умовах павялічыць сям'ю. Гэта ж ім будзе так цяжка. На што мне яна адказала: " Мілы сусед, няўжо мы ўшасцях не пракормім гэту кроху?" І прагадавалі, і адукацыю далі, і жыццё ў гэтай "крохі" зладжанае. Як гаворыцца, усё ладна выйшла.

Як кажуць у народзе, усё ішло пуцём-дарожкай. Нараджальнасць перавышала смяротнасць, і ўжо на 01.01.1993 года насельніцтва краіны склала 10 мільёнаў 239 тысяч чалавек. Але наступіла чорная паласа ў дэмаграфічнай сітуацыі, нараджальнасць стала рэзка змяншацца, а смяротнасць расці. Ужо на 01.01.2008 года насельніцтва зменшылася да 9 мільёнаў 655 тысяч чалавек. За 10 год, якія папярэднічалі 2008 году, не далічыліся 584 тысячы чалавек. Працэс прадаўжаецца і да гэтага часу. Перапіс насельніцтва, які праводзіўся ў 2009 годзе, канечне прааналізавалі ўсебакова, але вынікі аналізу ўтоены ад народу. Але ўсё ж штосьці становіцца вядомым.

У 2010 годзе насельніцтва Віцебскай вобласці скарацілася на 8057 чалавек, што ў адносінах да 2009г., больш на 590. Па дадзеных галоўнага статыстычнага ўпраўлення вобласці, у 2010 годзе на Віцебшчыне



нарадзілася 12406 дзяцей – на 173 менш, чым у 2009 годзе, а памерла 20463 – на 417 больш. Па-ранейшаму турбуе статыстыка шлюбаў і разводаў. Калі ў 2010 годзе было заключана 9542 шлюбы (на 253 менш, чым у 2009г.), то разводаў зарэгістравана 4800 – на 225 больш, чым у мінулым годзе. Рост прыроднага змяншэння відавочны.

Спынюся на нашым Мёрскім раёне, думаю, становішча аналагічнае і ў іншых раёнах. (Гл. табліцу ўнізе)

Прааналізаваўшы табліцу, мы з краязнаўцам Пятром Уладзіміравічам Баговічам прыйшлі да высновы, што нараджальнасць на сяле вышэй, чым у горадзе. Гэта даказана гісторыяй. 60 год таму ў маёй роднай Баркоўшчыне пражывала 10 гаспадароў. Толькі ў дзвюх сем'ях было па 2 дзіцяці. Даходзіла да 6-7 дзяцей.

Калі ў 1950 годзе ў нашай мясцовасці на базе 16 вёсачак і хутароў арганізавалі калгас з трох брыгад, на кожнай брыгадзе было прыкладна па 30 мужчын з улікам падлеткаў 15 год і старэй, і па 35-40 жанчын. Сёння ў Фядосава 2 хаты, у якіх пражываюць 2 пенсіянеры, у Ліпна 4 дамы, дзе пражываюць 8 пенсіянераў і 45-гадовы халасцяк.

У 1960 годзе ў былым Стэфанпольеўскім сельсавеце, зараз тэрыторыя САК "Сіцькова", пражывала больш 1700 чалавек. Сёння ў гаспадарцы каля 380 жыхароў, з якіх частка прыезлых. Калі ў 1966 годзе прымаў Акунёўскую СШ, у ёй навучалася 229 вучняў. У школьным мікрараёне функцыянавала Фядосаўская ПШ 15-20 вучняў і Турчанская ПШ 30-40 вучняў. У гэтым годзе за парты Сіцькоўскай СШ сядзе ўсяго 65 вучняў, у 1-м і 2-м класах усяго па аднаму вучню.

Сустракаюсваю вучаніцу па Дзісненскай СШ.

– Ірынушка, як твая сям'я, дзеці?

– Я не замужам.

– Чаму ж так? Табе ж даўно пара нараджаць.

– Пара. У мяне такі ўзрост, што пара б ужо і нараджаць. Але праблема: ад каго? Я хачу здаровае дзіця, без дурной спадчыннасці. І праблема паўстала, ад каго радзіць, не гаворачы ўжо аб тым, з кім выхоўваць?

За апошнія 30 год колькасць бясплодных мужчын павялічылася ўдвая. Па гэтаму паказчыку Беларусь не лідар, сярадняк. У 70% выпадкаў сучасныя мужчыны – на грані немагчымасці мець біялагічных дзяцей. "Калі 50 год назад менш 60 мільёнаў сперматазоідаў лічылася дрэнным паказчыкам, то зараз нават усё, што вышэй 20 мільёнаў, ужо добра" – пацвярджае галоўны ўрач Мінскага цэнтра "Эмбрыо" Алег Цішкевіч. Біялагічны "патэнцыял" моцнага полу памяншаецца, сведчаць медыкі. Ці не таму кожны трэці з беларускіх халасцякоў пазбягае заводзіць сям'ю.

Розніца паміж працягласцю жыцця мужчын і жанчын у Беларусі адна з самых вялікіх у свеце, больш 12 год. Сярэднесусветны паказчык – 4,5 гады. З 591 памерлых у 2009 годзе ў Мёрскім раёне 123 у працоўным узросце, што складае 22%.

Усё, аб чым дзецям гавораць у школе, чаму вучаць добрыя кнігі, на жаль, іх мала чытаюць дзеці. Усё, аб чым выступае Прэзідэнт, аб чым моляцца святары, усё гэта вечарам кожны дзень метадычна абвяргаецца, апляўдзіруецца і асмейваецца гаспадарамі і прадаўцамі тэлевізійнага супермаркета. Станіслаў Гаварухін у інтэрв'ю "Камсамольскай праўдзе" заўважыў, што кіно і тэлебачанне абавязаны фарміраваць у чалавека лепшыя маральныя якасці, але за апошнія 20 год адбываецца маральнае разлажэнне чалавека, асабліва моладзі.

24 мая 2010 года на ОНТ ток-шоў "Выбар" разглядалася тэма "Як вы адносіцеся да легалізацыі пратытуцыі". Як быццам бы у нас больш праблем няма!Вядучы Генадзь Давыдзька з сябрамі настойліва даказвалі, што прастытуцыя адна з старадаўніх прафесій, і ў тых краінах, дзе яна легалізаваная, прыносіць добры даход, да 5% бюджэту краіны. Доказы супраць легалізацыі крытыкаваліся. На тэлеперадачу прыйшла і дама, якая з годнасцю даказвала, што яна ганарыцца сваёй прафесіяй, што яе прафесія запатрабавана, добра аплачваецца і нічуць не горшая за прафесію настаўніка, доктара і г.д. Падаў свой голас выкармлены вярзіла, год 30-35, так званы "хлопец па выклику", у абавязкі якога за аплату ўваходзіць забавы і сэксуальнае абслугоўванне "свецкіх" дам. Аказваецца, ёсць у нас і такая прафесія.

Ці патрэбна здзіўляцца, што пры апытанні сацыёлагаў, кім бы вы хацелі стаць, некаторыя з дзяўчат адказваюць – хачу стаць прастытуткай, а хлопцы гатовыя ісці ў "браткі", або стаць кілерам.

Нікольki я не здзівіўся, калі вясной у газеце "Советская Белоруссия" у раздзеле "Дамскі клуб" прачытаў выказванні свецкіх дам з ліку творчай інтэлігенцыі, што сучасная жанчыне няма рэзону выходзіць замуж, абцяжарваць сябе сям'ёй і дзецьмі. Гэта пазбаўляе яе волі. Яна павінна думаць аб кар'еры, жыць у сваё задавальненне. А калі ёй спатрэбіцца мужчынскае таварыства, то гэта пытанне вырашаецца без асаблівых праблем.

Мімаволі ў памяці ўсплывае песня: "У меня братишки нет, у меня сестрёнки нет. Что же будет, если мода на детей пройдёт?" Праходзіць гэта мода, паважаны чытач.

**Дэмаграфічная сітуацыя ў Мёрскім раёне з 1965г па 2010г**

| | 1965 | 1970 | 1980 | 1990 | 1998 | 2009 | 2010 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Усяго насельніцтва | 51900 | 44463 | 38857 | 33495 | 32010 | - | 23333 |
| Пенсіянераў | - | 9833 | 10075 | 10112 | 10587 | - | 7998 |
| Навучэнцаў | - | 7670 | 5625 | 4391 | 4963 | 2875 | 2602 |
| Нарадзілася | 793 | 659 | 398 | 441 | 320 | 238 | 183 |
| Памерла | 408 | 506 | 533 | 562 | 658 | 591 | 510 |
| Шлюбаў | 449 | 386 | 350 | 308 | 198 | 186 | 172 |
| Разводаў | 28 | 42 | 64 | 52 | 123 | 72 | 84 |



Вяселле. «Рагатка» у Германавічах.

*Працяг на стар. 11*

А.В. Протас,
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# Як толькі браканьеры трапляюць у рукі інспектараў, іх не пазнаць, яны становяцца ветлівымі і просяць аб літасці

Прабleме збору ягад у нашых лясах надаецца вельмі шмат увагі, аднак, нягледзячы на ўсе высілкі міжраённай інспекцыі, на жаль лясных браканьераў менш не становіцца. Штотыдзень супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі ў лясах раёна затрымоўваюцца грамадзяне, якія ажыццяўляюць збор ягад чарніц, брусніц пры дапамозе камбайнаў. Браканьеры дзейнічаюць нахабна, на заўвагі простых грамадзян рэагуюць часам вельмі агрэсіўна, пагражаючы ім расправай, але як толькі трапляюць у рукі інспектараў, іх не пазнаць, парушальнікі становяцца ветлівымі і цiснуць на жаль. Але адказваць перад законам усё адно прыйдзецца. Так, 20 жніўня ў лясным масіве Галубіцскай пушчы супрацоўнікамі міжрайінспекцыі была затрымана жыхарка г. Наваполацка грамадзянка Т., якая праводзіла збор ягад брусніцы «камбайнам», на месцы збору ягад засталіся толькі голыя галінкі, ніводнага лісточка. Прыйдзецца парушальніцы пакрыць прычыненую прыродзе шкоду ў памеры 200 тысяч рублёў. У той жа дзень, у тым жа лясным масіве інспектарамі затрыманы жыхар г. Лепеля грамадзянін Дзікун, які пасля збору грыбоў і лёгкай перакускі выкінуў у лесе побытавае смецце, ПЭТ - бутэлькі, паліэтыленавыя пакеты. Вось пасля такіх грыбнікоў наш лес і ператвараецца ў звалку.

Шмат было гутарак і пытанняў у рыбакоў-аматараў пра перадачу вадасховішча «Азерцы» ў арэнду мясцовай гаспадарцы, пра ўводзіны платы за рыбалку. Планы ў гаспадаркі быццам бы былі велізарныя, але за паўгода арэнды нічога на вадаёме не змянілася, на берагах смеццевыя звалкі, смеццевыя бакі адсутнічаюць, не абсталявана ніводнае месца для стаянкі аўтатранспарту, ніводнай альтанкі, берагі зараслі дзікай травой. У грамадзян слушна ўзнікае пытанне, а ці трэба нам такія арандатары? Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі штотыдзень праводзяцца прыродаахоўныя мерапрыемствы на вадаёме, затрымоўваюцца браканьеры з сеткамі, але ніводнага работніка гаспадаркі, які ажыццяўляе ахову, няма. Міжрайінспекцыяй кіраўнік гаспадаркі ўжо прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, але зрухаў да лепшага няма. Калі хуткім часам на дадзеным вадаёме паляпшэння працы арандатараў не будзе, то міжрайінспекцыяй будзе пастаўлены пытанне пра скасаванне дамовы арэнды. Тады ў народзе не будзе пытання пра тое, хто ёсць «арандатар», браканьер ці талковы гаспадар вадаёма.

Вось толькі адзін прыклад разгулу браканьераў на вадасховішчы «Азерцы». 30 ліпеня 2011 года каля 20 гадзін ажыццяўляючы рэйдавыя мерапрыемствы на вадасховішча, супрацоўнікі інспекцыі звярнулі ўвагу на адну з аўтамашын, якая заехала ў зацішнае месца. Інспектары неадкладна арганізавалі назіранне і вынік не прымусіў сябе доўга чакаць. Жыхар г. Полацка не чакаючы цемры, спакойна, а каго яму баяцца, бо аховы няма, дастаў браканьерскія сеткі і хацеў іх усталяваць, але яго памкненні спынілі інспектары. Вось такі невясёлы аповяд.

Пра ўсе парушэнні Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 347-85-14 МТС, «гарачая лінія» 2-86-70 - кругласутачна.

Яўген Самсонаў

# Квецікі- сяміквецікі

**Традыцыйна ў Глыбокім 28 жніўня адзначалася свята кветак пад дэвізам “Дзеці – кветкі нашага жыцця”**

Зранку на дзіцячай пляцоўцы ладзіліся гульнявыя праграмы для дзяцей, а мясцовыя прадпрыемствы, установы і прыватныя асобы на Цэнтральнай плошчы, адзін перад адным, шчыравалі над кветкавымі кампазіцыямі.

За добраўпарадкаванне і ўпрыгожванне горада было адзначана УП ЖКГ Глыбоцкага раёна. Лепшыя работнікі гэтай арганізацыі атрымалі падзяку і каштоўныя падарункі ад імя Глыбоцкага райвыканкама і кіраўніцтва камунальнай гаспадаркі.

Складанае становішча было для судзейскай калегіі, бо кожная кветкавая кампазіцыя, зробленая ўмелымі рукамі выдатных кветкаводаў, уражвала прыгажосцю, сэнсам, палётам творчай думкі. Былі адзначаны працы мясакамбіната, аўтапарка №16, Глыбоцкай ЦРБ і іншых арганізацый і ўстаноў.

Цікавай была і тэматычная канцэртная праграма “Дзеці – кветкі нашага жыцця”.





На завяршэнне свята эстрадныя артысты Галіна Шышкова і Дзядзя Ваня парадавалі глыбачан сваім канцэртам, які адбыўся на гарадскім стадыёне.





# Расейцы скупляюць жыллё на Браслаўшчыне пад аграсядзібы

**Расейцы сталі больш актыўна ўкладваць інвестыцыі ў куплю жылых дамоў і арэнду зямельных участкаў у Браслаўскім раёне для стварэння аграсядзібаў. Пра гэта паведаміў дырэктар дэпартамента па турызме Мінспорту Беларусі Вадзім Кармазін, які прымае ўдзел у першым турыстычным злёце прафесіяналаў турбізнесу.**

Паводле яго слоў, расійскія інвестары гатовы ўкладваць грошы ў стварэнне турыстычных аб’ектаў на базе закінутых будынкаў. Акрамя таго, бізнэсмены праяўляюць цікавасць да будаўніцтва новых аб’ектаў. Разам з тым у цяперашні час асноўныя намаганні па стварэнні турыстычнай інфраструктуры ў Браслаўскім раёне робіцца Нацыянальным паркам «Браслаўскія азёры».

*Паводле БелТА.*

# Мінаблвыканкам зацвердзіў праграму дэмаграфічнай бяспекі да 2015 года

**Мінаблвыканкам зацвердзіў праграму дэмаграфічнай бяспекі да 2015 года.**

Як паведамілі БелаПАН у камітэце па працы, занятасці і сацыяльнай абароне аблвыканкама, на рэалізацыю папярэдняй праграмы (з 2007 па 2010 гады) было зрасходавана 23,9 млрд. рублёў. Спецыялісты адзначаюць, што акрэсліліся пазітыўныя тэндэнцыі. Так, у сталічным рэгіёне павысіўся агульны каэфіцыент нараджальнасці з 10,1 праміле ў 2006 годзе да 11,8 – у 2010-м. Знізілася дзіцячая смяротнасць – з 5,5 праміле да 4,5, смяротнасць ад знешніх прычын – на 0,7%, смяротнасць у працаздольным узросце – на 0,8%. Разам з тым, не атрымалася знізіць агульны каэфіцыент смяротнасці насельніцтва да 10-11 праміле (паводле праграмы), ён склаў 16,4 (па краіне – 14,5).

Новая праграма складаецца з трох кірункаў: дзяржаўная падтрымка сям'і і дзяцінства, умацаванне здароўя насельніцтва і павелічэнне чаканай працягласці жыцця, знешняя міграцыя ў інтарэсах краіны і вобласці. Так, плануецца павелічэнне памераў дзяржаўных дапамог па доглядзе за дзіцем да трох гадоў. Значныя прэферэнцыі будуць дадзены шматдзетным сем'ям у вырашэнні жыллёвых умоў, павелічэнні памераў фінансавай дапамогі для пагашэння запазычанасці па льготных жыллёвых крэдытах. Прадугледжаны меры па стварэнні сістэмы льготнага крэдытавання сямейных пар, якія пакутуюць ад бясплоддзя, па прафілактыцы другаснага сацыяльнага сіроцтва і інш.

Праграмай прадугледжана зніжэнне агульнага каэфіцыента смяротнасці да 12,5-13 праміле і чаканая працягласць жыцця пры нараджэнні 73 гады. «Іх дасягненне можа быць забяспечана шляхам павышэння якасці медыцынскай дапамогі, ранняй дыягностыкі захворванняў, укаранення інавацыйных тэхналогій, умацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы медустаноў, паляпшэння якасці пітной вады, развіцця фізкультуры і спорту», – адзначылі спецыялісты. На гэта спатрэбіцца 35,5 млрд. рублёў, ці 94,9% ад запланаваных расходаў на рэалізацыю праграмы.

На рэалізацыю праграмы плануецца накіраваць 37,4 млрд. рублёў.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

**5 – 11 верасня 2011 г.**



## ПАНЯДЗЕЛАК, 5 верасня



**06.00, 07.10, 08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.00,08.00**(ссурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.40** Новости.
**07.05, 08.05** «Зона Х». Дорожные новости.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** Док.сериал «Горожане-2011»: Лиссабон.
**09.10 "Маргоша"**
**10.10 "Маршрут милосердия".** Заключит.серия.
**11.00** «Несбывшиеся мечты знаменитых моделей».
**12.10 "Чужие души"**
**13.45** Синематека.
**14.30** Здоровье.
**15.15, 19.20** Новости региона.
**15.35** Комедийный боевик **"Такси-2"**
**17.05 "Пари"**. 1-я сер
**18.00** Премьера. **"Поцелуй Сократа"**(Беларусь). **"Смертельный аромат"**. 1-я серия.
**18.50** «Зона Х».
**19.30** Арена.
**19.55 "Маргоша"**
**21.00** Панорама.
**21.40** Командировка.
**21.55** Триллер **"Рискуя жизнью"**
**23.50** День спорта.
**00.00** «Любовь и смерть Василия Чапаева».



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.10** «Наше утро».
**09.10** Контуры.
**10.15** «Детективы».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 "Затерянный мир".**
**12.00 "Товарищи полицейские".**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15 "Обручальное кольцо".**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 "Королева экрана"**
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Открытый формат».
**22.10 "В лесах и на горах"**
**23.10** «Свидетели».
**00.10 "Товарищи полицейские".**
**01.05-01.35** Ночные новости.



**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 "Ты моя жизнь"**
**09.05 "Интерны"**
**10.05** Женсовет.
**10.40** Концерт Whitesnake. Live In The Still Of The Night.
**12.40** Новости погоды.
**13.10** Трагикомедия **"Искусство жить в Одессе"** (СССР).
**15.05** Час суда. Дела семейные.
**16.10** Врачебные тайны
**16.45** Врачебные тайны +.
**16.55 "Анатомия Грэй5"** (США).
**17.55 "Ты моя жизнь"**
**19.00 "Интерны"**
**19.55** Белорусское времечко.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** КЕНО.
**21.25** Концерт Whitesnake. Live In The Still Of The Night.



**23.20 "Анатомия Грэй5"** (США).
**00.05** Овертайм.
**00.35** Реальный мир.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя». .
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40 "Наши соседи"**. Сериал.
**11.30** КРАСОТКИ! Мисс-Минск-2011.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Большой город».
**13.10** «Дальние родственники».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**14.45** КРАСОТКИ! Мисс-Минск-2011.
**14.55** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «Я-путешественник».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 "Огонь любви".**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25**«Кинопонедельник»: **"ШИЗА".**
**22.20** КРАСОТКИ! Мисс-Минск-2011.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Анной Чапман».



**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:40 "Праведнікі»**: 6 серыя
**8:25** «Георгі і матылі» , дак. фільм
**9:15** Размовы эксперта
**9:35 "Мы тут больш не жывем»**, маст. фільм
**11:10** «Новы час»
**11:45** МакраФон: «Басовішча-2007», «Крамбамбуля»:ч.2
**12:15** Моўнік
**12:25** «Георгі і матылі» , дак. фільм
**13:15** Размовы эксперта
**13:35 "Мы тут больш не жывем»**, маст. фільм
**15:10** «Новы час»
**15:45** МакраФон: «Басовішча-2007», канцэрт гурта «Крамбамбуля», ч. 2
**16:15** Невядомая Беларусь: «Як пошуг маланкі», рэпартаж, рэж. Валеры Мазынскі, 2010 г., Беларусь
**16:45** Моўнік
**17:00 "Мой родны горад»**: 2 серыя
**17:20** Вагон
**17:30** Невядомая Беларусь: «Еўрапейскі баль», дак. фільм, рэж. Леанід Міндлін, 2010 г., Беларусь
**18:00** Аб'ектыў
**18:05 "Праведнікі»**: 6 серыя
**18:50** Невядомая Беларусь: «Як пошуг маланкі»
**19:30** Аб'ектыў
**19:40** Гарачы каментар
**19:50** Калыханка для самых маленькіх
**20:00** Еўропа сёння
**20:25** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Чэрап»
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыватная калекцыя
**21:50 "Мы тут больш не жывем"**
**23:25** Аб'ектыў
**23:50** Гарачы каментар

